

забаўляльна-навучальны часопіс для дзетак

# ГАРБУЗІК




с. 4–7

## Акіян

заданні
забаўкі
крыжаванкі
казкі
ЧЫТАЕМ
МАЛЮЕМ
самаробкі
ЛІЧЫМ
ГУЛЯЕМ
вершы




Гэля Савіцкая

# Правая ды левая






У мяне ёсць дзве рукі,
Толькі дзе — якая?
Дзе тут правая рука?
Зараз адгадаю!

Праваю рукой пішу,
Валасы ёй прычашу,
І трымаю лыжку,
І гартаю кніжку.
І вітаюся з табой
Зранку праваю рукой.

Ну а левая рука
Для чаго мне трэба?
За сталом трымаю ў ёй
Я кавалак хлеба.

Мне без левае рукі
Ў дошку не забіць цвікі,
Ані кубак не памыць,
Ані гузік не прышыць.

Там, дзе правая рука
Справу пачынае,
Там і левая рука
Ёй дапамагае.



### Для цікаўных

Калі сабраць разам сто чалавек, сярод іх будзе каля пятнаццаці тых, хто карыстаецца левай рукой лаўчэй, чым правай. Існуе нават Міжнародны дзень ляўшуноў — 13 жніўня. У гэтым вершыку словы «правы» і «левы» таксама можна памяняць месцамі!




# Той ці іншы бок?



***Упрыгож ялінку***: вазьмі алоўкі ці маркеры сіняга і чырвонага колераў і расфарбуй шары: злева – у сіні колер, справа – у чырвоны.

***Збяры на стол***: злева ад талеркі намалюй нож, а справа — відэлец. Смачна есці!

# Вавёрчыны прысмакі




Вавёрка — вельмі гаспадарлівая істота. Улетку яна завіхаецца, збіраючы прыпасы на зіму. Перад тым, як схаваць здабычу, яна абавязкова патрэ яе аб нос, каб на ежы застаўся вавёрчын пах, і ёй было лягчэй знайсці прыхаванае пад снегам.

***Заданне***: дапамажы вавёрцы не заблукаць сярод чужых прыпасаў і знайсці свой улюбёны ласунак. Стрэлкі па чарзе паказваюць, у які бок скіравацць наступны крок.




*Г. Арсайла*

# Акіян

***Як толькі чалавек пачаў асвойваць касмічную прастору, Зямлю сталі прыгожа называць «Блакітнай планетай». Большую частку яе паверхні займае вада — чатыры акіяны: Ціхі, Атлантычны, Індыйскі, Паўночны Ледавіты. Дзякуючы ім, з космасу Зямля сапраўды здаецца блакітнай.***

Слова **акіян** паходзіць з грэчаскай мовы і азначае «бязмежнае мора, вялікая рака, якая абцякае Зямлю». Гэта таямнічы свет з незвычайнымі раслінамі, малюскамі, рыбамі. Акіян поўны разнастайных жывёлаў — ад мікраскапічнага планктону да вялізных кітоў.



## Як вывучаюць акіян?

Даследаваннем акіянічных глыбіняў займаюцца **акіянолагі**. Гэта захапляльная, але вельмі рэдкая прафесія. (Спытай у дарослых: ці шмат акіянолагаў ведаюць яны асабіста?) Акіянолагі сочаць за чысцінёй вады і дна, назіраюць за жыццём рыб і падводных жывёлаў.

Акіян вывучаюць падчас навуковых экспедыцый на даследчых судах. Там ёсць прылады для лоўлі глыбакаводных жывёлаў, для вымярэння тэмпературы вады і хуткасці плыняў. У акіянічныя глыбіні спускаюцца вадалазы. Да глыбіні 50 метраў яны апранаюць звычайныя вадалазныя касцюмы. На спіну чалавека чапляюцца газавыя балоны, ад якіх праз шланг падаецца паветра. Калі трэба спусціцца яшчэ ніжэй, апранаюць цвёрдыя ахоўныя скафандры. Рэч у тым, што на вялікай глыбіні ціск вады нашмат большы. Без ахоўнага касцюма чалавека проста расцісне нібы праснак!



*Самая вялікая вулканічная выспа ў свеце — Ісландыя. Ты лёгка знойдзеш яе на мапе свету.*



*Цяпер акіянолагам дапамагаюць касмічныя спадарожнікі Зямлі. Яны могуць абляцець планету некалькі разоў за суткі альбо нерухома «завіснуць» над адным месцам. З касмічнай вышыні можна вызначыць тэмпературу вады, вышыню хваляў, убачыць акіянічныя плыні, а таксама забруджанні.*

## Чаму акіян салёны?

Амаль уся вада на нашай планеце салёная, яе нельга піць. Прэснай, пітной вады мала, і ў многіх засушлівых краінах здабыць яе — вялікая праблема.

У вадзе мораў і акіянаў шмат солі — той самай, з якою мы гатуем ежу. Яна трапляе туды з сушы. Рэкі і ручаі вымываюць часцінкі солі з глебы і нясуць у мора. Потым вада з паверхні мора выпараецца, а соль — тая самая, прынесеная рэчкамі з зямлі — застаецца. Кропелькі вады над акіянам збіраюцца ў хмары і падаюць дажджом на зямлю. А там ізноў забіраюць з глебы часцінкі солі, трапляюць у раку і бягуць да мора... Вось так і адбываецца колазварот вады ў прыродзе, вось таму акіян салёны.



*У акіяне жыве сіні кіт — найвялікшая жывёла планеты. Яго даўжыня дасягае 33 метраў.*

*Каля берагоў трапічных водаў шмат каралавых рыфаў — месцаў жыхарства вялікай колькасці водарасцей, рыб, малюскаў, губак ды іншых марскіх арганізмаў. Іх нават называюць радзільняй акіяна. А каралавыя паліпы, з якіх складаюцца рыфы, чысцяць ваду, падтрымліваюць экалагічную раўнавагу ў акіяне.*

## Горы ...на дне акіяна?

Калі ты адпачываў на беразе мора, то памятаеш, як жоўты пясочак пляжу ў вадзе пераходзіць у мяккае марское дно. Здаецца, нібы ўсё дно мора роўнае і пясчанае. Але насамрэч там ёсць і горы, і раўніны, і бездані... І нават вулканы! З самай глыбіні Зямлі праз шчыліны вывяргаецца гарачая лава і застывае. Наступнае вывяржэнне вулкана паступова павялічвае гару застылай лавы. Калі макаўка падводнага вулкана выступае з вады, утвараецца выспа. Вулканічныя выспы ёсць ва ўсіх акіянах, апроч Паўночнага Ледавітага.

Самае глыбокае месца ў свеце — Марыянская западзіна, вялізная трэшчына ў дне Ціхага акіяна. Яе глыбіня 11 кіламетраў. Каб уявіць такую глыбіню, паглядзі на неба, дзе на вышыні каля 10 кіламетраў ляціць пасажырскі самалёт. Цяпер у думках адкладзі такую ж адлегласць ад паверхні акіяна ўніз. Вось туды, на самае дно Марыянскай западзіны, у 1960 годзе спусціліся двое даследчыкаў. Спуск у самы нізкі пункт Зямлі адбыўся ў батыскафе «Трыест» і заняў 5 гадзін.






# Імя для кіта




Бялухі — белыя кіты — умеюць выдаваць дзівосныя гукі! Яны мыкаюць, як каровы, і спяваюць, як птушкі. Разблытаўшы трос, ты даведаешся, як яшчэ называюць белых кітоў.

## Марская матэматыка



Падлічы, колькі дэльфінаў плыло, калі адзін дэльфін плыў спераду, два ззаду, адзін ззаду і два спераду, адзін паміж двума і тры ў шэраг.

Адказ: тры дэльфіны плылі адзін за адным.

## Страшнае слова

Адважны пірат Дубовая Галава нічога не баіцца! Ці амаль нічога... Часам ён трапляе ў небяспеку, якая прымушае дрыжэць нават самых смелых піратаў! Назва гэтае небяспекі зашыфравана на малюнку. Закрэслі літары, якія сустракаюцца двойчы, а з астатніх складзі слова.




## РЭБУСЫ

















## Шторм

— вельмі моцны вецер з вялікімі хвалямі на моры ці ў акіяне. У пагоду вада спакойная, але ад ветру хвалі робяцца ўсё вышэйшымі і могуць дасягаць некалькіх метраў. Збіраюцца цёмныя хмары, ліе дождж. Жывыя істоты адчуваюць змену надвор'я: перад штормам рыбы і жывёлы хаваюцца на глыбіню, птушкі вяртаюцца на бераг.

Ты можаш утварыць маленькі шторм у талерцы з вадой. Калі злёгку падзьмуць на ваду, убачыш ледзь заўважныя хвалі. А калі падзьмуць штомоцы, то хвалі ў талерцы затопяць не толькі беражок, але нават стол і падлогу!

## Водарасці



— гэта падводныя расліны. Яны жывуць толькі там, куды трапляе сонечнае святло. У іх няма кветак, насення, лістоў і каранёў, а ёсць адно толькі «цела». Водарасці бываюць розных колераў: зялёныя, карычневыя, залацістыя. Там, дзе растуць чырвоныя водарасці, вада робіцца такога ж колеру (як у Чырвоным моры). З адных водарасцяў робяць трывалыя канаты і вяроўкі, іншыя ўжываюць у ежу, як вядомую табе марскую капусту.

## Айсберг



— вялізная крыга, кавалак лёду, які адкалоўся ад ледавіка і плыве ў акіяне. Айсбергі бываюць розных памераў: найбольшыя — дзясяткі ці нават сотні кіламетраў, меншыя — велічынёй з аўтобус (называюцца гроўлерамі). Над вадою відаць толькі невялікую іх частку, астатняе схавана пад вадой. Вось чаму айсберг небяспечны для караблёў: яны могуць натыкнуцца на нябачную, схаваную пад вадой частку лёдавай гары і атрымаць цечу.

Зладзім эксперымент. Кінь кубік лёду ў місу з вадой. Лёд лягчэйшы за ваду, таму не патоне. Большая яго частка будзе схаваная пад вадою, як у айсберга. Пазней лёд растане. Гэтаксама растане і айсберг, калі падводныя плыні занясуць яго ў цёплыя воды.

*Цікавосткі збірала Паліна Грынчанка*




Каток пайшоў вудзіць рыбу, а мастак яго намаляваў. Ды яшчэ і кавалачкі з малюнкамі пакінуў. Вось толькі нешта наблытаў — не ўсе з іх ёсць на карціне. Знайдзі на ёй фрагменты, якія змешчаны ўнізе. Вызначы, якія з іх памылковыя.



















*Стварыла Святлана Віктор*

# РЫБАЧОК









*Прывітанне, сябры! Ці падабаецца вам падарожнічаць? Я вельмі люблю бываць у розных краінах, таму ў нашым часопісе з'яўляюцца новыя старонкі — «Падарожжы з Гарбузікам». Я буду дзяліцца з вамі ўражаннямі ад сваіх вандровак. Мой першы расповед — пра Канаду, адну з найбуйнейшых краін у свеце.*




# Канада з Гарбузікам

*З Гарбузікам вандравала Таццяна Мышко*

Калі вы паглядзіце на мапу, то ўбачыце, што шлях з Беларусі ў Канаду ляжыць цераз Атлантычны акіян. Першыя перасяленцы з Еўропы ў Канаду, якія плылі на караблях пад ветразямі, праводзілі ў дарозе да трох месяцаў. Сучасны карабель даставіць вас да ўсходняга ўзбярэжжа Канады за 10 дзён, а самалёт даімчыць за 5 з паловай гадзінаў. Не здзіўляйцеся, калі ўначы вы не зможаце заснуць, а ўдзень у вас будуць заплюшчвацца вочы: розніца ў часе паміж Ванкуверам і Беларуссю складае 10 гадзін!

У якіх мясцінах варта абавязкова пабываць? Мільёны турыстаў штогод прыязджаюць у Канаду, каб пабачыць Ніягарскі вадаспад.


Ніягарскі вадаспад

Захапляецеся дыназаўрамі? Парк дыназаўраў знаходзіцца ў правінцыі Альберта. З 1880-х гадоў з яго зямлі дасталі больш за 300 шкілетаў дыназаўраў, што жылі на нашай планеце каля 75 мільёнаў гадоў таму.


Сталіца Канады — Атава, там працуе парламент

А можа, вам падабаецца ўсё загадкавае і незразумелае? Возера Аканаган — адно з самых глыбокіх у Паўночнай Амерыцы і, мабыць, самае таямнічае. Кажуць, там жыве Огапога — 5-метровае азёрнае страшыдла з тулавам змяі і конскай галавой.

А ці ведаеце вы, што такое радэа? Гэта такі традыцыйны спорт каўбоеў, калі тыя скачуць на дзікім быку, на кані, кідаюць ласо і завальваюць бычка. Вершнік мусіць утрымацца на спіне каня, які імкнецца яго скінуць, не менш за 8 секунд.

Напэўна, вам цікава будзе параўнаць беларускую і канадскую



Мае ўлюбёныя месцы — дзіцячыя навуковыя цэнтры, там столькі ўсяго цікавага! Можна зрабіць тарнада, стварыць свае сузор'і, раскапаць шкілет дыназаўра, напісаць музыку колерамі. А можна пабыць пчалой — убачыць, што бачыць пчала, калі глядзіць на кветкі, і навучыцца віхляваму танцу, каб расказаць іншым пчолам, дзе шукаць пылок. Тут будуюць замкі з «Лега», праграмуюць робатаў, ладзяць эксперыменты з вадой і электрычнасцю — усяго не пералічыць!

школы. Дзеці ў Канадзе вучацца 12 гадоў, ад верасня да канца чэрвеня. У пачатковай школе настаўнік змяняецца кожны год, мяняюцца і вучні, але звычайна даецца магчымасць выбраць 1–2 сяброў, з якімі ты хочаш вучыцца разам.

Знутры школа выглядае нязвыкла: на сценах — дзіцячыя малюнкі, сачыненні і фотаздымкі. Падчас заняткаў ёсць два перапынкі: першы — хвілін на 20, прыкладна праз дзве гадзіны ад пачатку; другі — 50 хвілін, каб пад'есці (ланч). Але гэта не значыць, што адзін прадмет доўжыцца паўтары гадзіны. За гэты час дзеці займаюцца, напрыклад, музыкай, чытаннем ды фізкультурай і трохі адпачываюць. У кожнага ёсць свой столік, звычайна ў класе сядзяць групамі па 5–7 чалавек. У пачатковай школе дзеці не атрымліваюць адзнакаў. Хатнія заданні ёсць, але не абавязкова кожны дзень.






Карэнныя жыхары Канады — індзейцы ды інуіты


«Піжамны дзень»

Улюбёныя дзіцячыя святы — Хэлаўін, Каляды, Дзень Святога Валянціна, Дзень Святога Патрыка, Вялікдзень і Дзень Канады. Звычайна на гэтыя святы ў кожным класе ладзіцца салодкі стол. Бывае «піжамны дзень», калі і дзеці і настаўнікі прыходзяць у школу ў піжамах. У апошнія дні навучальнага года ў многіх школах праводзіцца шоў талентаў, дзе кожны можа выступіць са сваім нумарам.

*На гэтым развітваюся. Аранжавага вам настрою! Ваш Гарбузік.*






*Алена Серашкова*

# The words

***Беларуска-англійскі вершаваны слоўнік для малодшага ўзросту (частка 2)***



Спрытна цягне сена воз
Шэрая **кабылка** — ***horse***




У мамін слоік з манкай
Улезла **малпа** — ***monkey***



Я паўдня у сшытку крэмзаў
Ды зламаў **аловак** — ***pencil***



Морквы мне зашмат не трэба,
Я маленькі **трусік** — ***rabbit***



Я з гары качуся ўніз,
Снег віхураць **лыжы** — ***skis***



Вось і снежань надышоў,
Белы снег на **даху** — ***snow***



Я разбегся: раз, два, тры —
І залез на **дрэва** — ***tree***



Выйсці ў дождж ты захацела?
Парасон **вазьмі** — ***umbrella***



Напіліся мы ў ахвоту!
Ёсць вада у **студні** — ***water***

*Малявала*
*Вольга Раманюк*




# Якога колеру снег?

Мой любы дружа, адкажы, калі ласка: якога колеру снег?

Белы? Так, белы. Але не заўсёды. Ці прыглядаўся ты да яго ўважліва-ўважліва? Бачыў, што ён можа быць і шэрым, і ружовым, і блакітным — у залежнасці ад надвор'я і яскравасці сонейка?

Вось выйдзеш на вуліцу — паўзірайся ў гэтае снежнае зіхаценне. Яно рознакаляровае! Толькі колеры гэтыя не яркія, а ледзь прыкметныя...

Раскажу табе казку.

Жыла-была Сняжынка. Яна была маленечкая, але вельмі прыгожая. Ёй падабалася, як яна зіхаціць і пераліваецца на сонцы. Калі мама-воблака выпусціла Сняжынку пагуляцца, нашая прыгажуня лётала-лётала дый апынулася на галінцы дрэва. Азірнулася навокал і заўважыла хлопчыка, якому было чатыры ці пяць гадкоў. Хлопчык сядзеў на санках і змрочна глядзеў на ўзгорак, што быў паблізу. На тым узгорку дзеці весела і шумна коўзаліся на санках.

— Авоечкі, што ж здарылася? — падумала Сняжынка і скіравалася на шалік хлопчыка. — Здароў! Чаму ты такі змрочны?

Хлопчык спачатку здзівіўся, што з ім размаўляе нейкая сняжынка, але тут жа ізноў надзьмуўся і непрыхільна адказаў:

— Табе што за клопат?

— Як гэта што за клопат?! Я ж сняжынка! Сняжынкам заўсёды ёсць клопат да змрочных хлопчыкаў, асабліва ўзімку! — захвалявалася Сняжынка.

— Чаму асабліва ўзімку? А ўлетку што — табе будзе ўсё адно, хто змрочны, а хто вясёлы?

— Гэх, ты ж ведаеш, што я растану ўжо вясной, — зажурылася Сняжынка. — Таму мне вельмі важна, каб узімку, калі я яшчэ такая прыгожая і вясёлая, — усе навокал весяліліся разам са мной! Дарэчы, як цябе клічуць?

— Станіслаў мяне клічуць. І я не буду весяліцца! Не люблю тваю зіму! Няхай вунь яны весяляцца! А я не хачу! — бурчэў хлопчык, скасавурыўшыся на дзяцей, што гуляліся на ўзгорку.

— Чаму ж ты так не любіш зіму?

— Яна непрыгожая!

— Як гэта непрыгожая?!

— Яна халодная! І... і нецікавая! Яна толькі белая ці шэрая!

— Ну-у-у, Стасічак... З тым, што яна халодная, я, можа, і пагаджуся. Дык ты ж цёпла апрануты — табе гэта не страшна. Што да астатняга... Яна вельмі цікавая! Паглядзі, колькі ўсяго навокал! Колькі гульняў ды забавак! Санкі, канькі, лыжы, хакей, снежкі, снежныя гарадкі, можна зляпіць снегавіка, можна... Ды ўжо цікава проста хадзіць па снезе і слухаць, як ён рыпіць пад нагамі! Гэта ж музыка! — Сняжынка аддыхалася і дадала: — І няпраўда, што яна толькі шэрая ці белая! Паглядзі ўважліва на мяне. Бачыш, якая я цікавая і рознакаляровая? Вось гэтая мая галінка — ружаватага адцення, гэтая — жоўценькага, сярэдзінка — блакітнага. А гэтай галінцы — паглядзі, якая смешная — спадабаўся твой шалік! І яна пазычыла ў яго прыгожы зеленаваты колер...

— І сапраўды, — здзівіўся хлопчык.

Яны яшчэ доўга размаўлялі пра зімовыя забавы і колеры...

Кожную зіму сустракаліся Сняжынка і Станіслаў. Неўзабаве хлопчык вырас. Ён стаў мастаком. І вельмі палюбіў маляваць зіму — прыгожую і рознакаляровую.

Паглядзі ўважліва на гэтыя карціны. Гэта рэпрадукцыі твораў вядомага мастака Станіслава Жукоўскага. Папрасі бацькоў, каб яны патлумачылі табе, чаму снег можа быць не толькі белым, і пашукай з імі розныя адценні снегу на гэтых выявах.

***

*Станіслаў Жукоўскі (нарадзіўся ў 1875 г. на Гродзеншчыне. Памёр у 1944 г. у Польшчы) — беларускі мастак. Зусім нямат часу ён пражыў у Беларусі. Вучыцца яму давялося ў Польшчы і ў Расіі. Але колішні хлопчык Стасік часта наведваў родныя беларускія мясціны, каб памаляваць тутэйшыя пейзажы.*

*Віталія Глаз*


Шэрань


Лясная дарога


Лес узімку




*Шарлат Б. Гэр. Малюнкі Фрэнсіс Бім*

# ЯК РАБАЦІНІСТАЯ ЖАБКА СТАЛА ПРЫГОЖАЙ

Жыла-была некалі дзяўчынка Мар'янка, і была ў яе лялька Марылька.

Марыльку прынёс Святы Мікалай у снежную ноч на Каляды, а яшчэ ён прынёс шмат прыгожага адзення для яе. Меліся ў Марылькі тры сукенкі: цёплая чырвоная — зімовая, белая танюткая — летняя, і яшчэ адна, прыгожага блакітнага шоўку з карункамі – святочная. Акрамя таго, былі ў яе спаднічкі, маленечкія панчошкі і прыгожыя туфлікі з бліскучымі спражкамі ды сапраўднымі абцасамі. А яшчэ ружовы парасон і — самае цудоўнае — міленькая муфтачка* з мяккага белага футра, каб Марыльчыным ручкам было цёпла ўзімку.



Маленькая Мар'янка апранала Марыльку ў гэтыя прыгожыя рэчы, а потым раскрывала вялікі парасон над галавой лялькі. Толькі белую муфтачку Мар'янка ёй амаль ніколі не давала, бо тая была толькі для святаў.

Аднойчы бабуля падарыла Мар'янцы на народзіны лялечны куфар — і жыццё Марылькі стала не такім прыемным. Складаць рэчы ў куфар было гэтак цікава, што Мар'янка часта здымала ўсё адзенне з лялькі, каб пакласці яго ў куфар. Бедная Марылька гадзінамі сядзела зусім раздзетая, яна дрыжэла і калацілася, а адным разам, калі Мар'янка пакінула яе ляжаць без адзення на ўсю ноч, на падлозе, — лялька застудзілася і захварэла.

Мар'янцы стала вельмі сорамна за тое, што яна нарабіла. Яна паклала Марыльку ў ложак і паклікала доктара Прынца. Доктар прыйшоў, паглядзеў язык хворай, памацаў пульс, а пасля змрочна пахітаў галавой. Ён сказаў, што Марылька мусіць піць лекі штодня, сядзець на свежым паветры і заўсёды быць убранай у найлепшае адзенне — таму што яна насамрэч вельмі хворая лялька.

І вось Мар'янка ўбрала Марыльку ў блакітны шоўк з карункамі, разгарнула над галавой лялькі ружовы парасон і дала Марыльцы ў рукі белую святочную муфту. Потым яна аднесла Марыльку на шэры камень на заднім двары, дзе растуць настуркі, каб лялька дыхала свежым паветрам.



А пад вялікім каменем жыла маленькая Рабацiністая Жабка.

Яна была не надта прывабнай, як усе жабкі, але любіла прыгожыя рэчы. Сябры любілі Жабку, бо яна была добрай ды спагадлівай.

Кожны дзень Рабацiністая Жабка выпаўзала з-пад каменя і, хаваючыся ў траве, глядзела на ляльку, што грэлася на сонейку. Жабка марыла пра блакітную шаўковую сукенку з ружовым парасонам, як у Марылькі. Але больш за ўсё ёй хацелася мець такую маленькую мяккую муфту!

Так сталася, што неўзабаве чырванагруды спадар Заранка меўся ладзіць вялікае свята ў садзе. Рабацiністую Жабку таксама запрасілі, і, вядома ж, ёй хацелася выглядаць як мага прыгажэй. Вось толькі не было ў яе ані сукенкі з карункамі, ані парасона, ані мяккай муфтачкі.

Жабка ледзь не плакала. І тут з-пад лістка паказаўся Чорны Павучок, яе добры сябра: «Не засмучайся так, я спляту табе карункі, якія захочаш».

Так ён і зрабіў: завіхаўся цалюткі дзень, а наступнай раніцай прынёс ёй доўгі сувой дзівосных карункаў, такіх жа тонкіх, як павуцінне. Маленькая Жабка была яму дужа ўдзячная.

«Але дзе я вазьму парасон?» — спытала яна.

«Я падкажу табе!» — пачула Жабка ціхі галасок. Узняўшы вочы, яна ўбачыла маленькага белага матылька, што адпачываў на кветцы. «Я ведаю, дзе расце найпякнейшы маленькі грыбочак. Аднаго дня ён схаваў мяне ад дажджу, і ён такі ж далікатны ды ружовы, як Марыльчын парасон».

Матылёк паказаў Рабацiністай Жабцы, дзе знайсці грыб. Той сапраўды быў далікатны ды ружовы, і Рабацiністая Жабка была вельмі ўсцешаная.

«Каб толькі ў мяне была муфта, — уздыхнула яна, — я б выглядала гэтак жа прыгожа, як Марылька!»

Тут пачуўся моцны шум з найбліжэйшага дрэва, і з лісця вылецеў сам Заран-

ка, а жабцы проста пад ногі зваліўся маленькі белы вусень. Ён быў такі перапалоханы, што згарнуўся ў клубок і ляжаў нерухома. Гэта насмяшыла Марыльку, а Рабаціністую Жабку натхніла на бліскучую ідэю.



«З цябе атрымаецца цудоўная муфта! — закрычала яна. — Можна, я надзену цябе на свята, усяго адзін раз?»

Маленькі вусень выпрастаўся.

«Калі ты будзеш клапаціцца пра мяне і не дасі Заранку мяне з'есці, — адказаў ён, — я з радасцю буду тваёй муфтай».

І вось Рабаціністая Жабка пайшла на свята. Яна надзела карункі з павуціння, і несла грыбны парасон, і трымала маленькага белага вусеня замест муфты.

Заранка сказаў, што яна выглядае лепей за ўсіх. І Марылька, якая ўжо акрыяла і прыйшла на свята, сказала тое ж самае.

Чырванагруды Заранка заўсёды ладзіў свае святы на змярканні. У гэты час яго голас гучыць лепей, казаў ён, і галасы іншых спевакоў таксама. На змярканні неба робіцца пяшчотным ды ружовым, а феі павесяць кроплі расы на лісце, каб зрабіць свята прыгожым. І вішні лепшыя на смак, а яшчэ пазней, у прыцемках, конікі зайграюць для тых, хто хоча танчыць.

Чырванагруды Заранка заўсёды ладзіў выдатныя святы, але гэтае было найцудоўнейшым!

Нарэшце Рабацініcтая Жабка была зусім шчаслівая. Яна засмяялася і сказала сабе: «Зусім не істотна, прыгожая я ці не. Мае сябры мяне любяць!»

**Муфта — цёплы мяшэчак з адтулінамі для рук з двух бакоў.*



*Пераказаў Юрка Штукар, паводле: How Freckle Frog Made Herself Pretty – Project Gutenberg http://www.gutenberg.org/ebooks/19197*




*Хочаш стварыць свой уласны падводны свет? Ты можаш засяліць яго не толькі рыбкамі, але і васьміногамі, кальмарамі, марскімі конікамі ды зоркамі… Чым большая скрынка, тым больш прасторы для фантазіі!*

Майструем

# АКВАРЫУМ



## Табе спатрэбяцца:

- абутковая скрынка;
- каляровая папера, кардон;
- фарбы, пэндзлік;
- пластылін;
- клей, нажніцы;
- кукурузная крупа ці проса;
- ніткі, запалкі.

**1.** Пафарбуй сценкі абутковай скрыні ў сіні колер, адну сценку пакінь нефарбаванай — гэта будзе дно. Прыклей на дно папяровыя ці кардонавыя водарасці. Як след змаж дно клеем і пасып жоўтай крупкай.

**2.** Пакуль дно падсыхае, зрабі марскіх жыхароў — пластылінавых васьмінога і ракаўку з перлінкай ды кардонавых рыбак (рыбак лепш рабіць двухслойнымі). Склей дзве паловы рыбак, уклаўшы між імі адзін канец ніткі, намалюй ім вочы і раты, а таксама луску.

**3.** У верхняй частцы «акварыума» зрабі некалькі прарэзаў (столькі, колькі рыбак), прасунь вольны канец ніткі праз прарэзы ды замацуй яго на запалцы. Пасадзі на дно васьмінога ды ракаўку.

*Акварыум майстравалі Яніна Віктор з мамай Святланай*



забаўляльна-навучальны часопіс для дзетак
# Гарбузік
harbuzik.by

Нашыя дзеткі
dzietki.org

Нумар падрыхтавалі:
рэдактары *Паліна Грынчанка, Вольга Мазурава,*
кампутарная вёрстка і дызайн *Ірына Бурносенка, Кацярына Карачун*
пры дапамозе *Вольгі Раманюк, Алены Церашковай, Тацяны Мышко, Вікторыі Глаз, Святланы Віктор*

## Дзівосны акіян




5


4


1


2


3


9


11


8


6


7


10


12


Спраўдзіць адказы на рэбусы і галаваломкі, а таксама далучыцца да суполкі стваральнікаў часопіса вы можаце на сайце *dzietki.org*. Матэрыялы ды прапановы дасылайце на электронны адрас: *harbuzik.by@gmail.com*.